# Паштовая скрынка.

**А. Лебядзе.** Паэмка „Цікавы хлопчык" бедная вельмі па зьместу; дробны факт паложан у аснову яе. Таксама і апрацоўка занадта не задавальняючая (ня гладка з боку разьмернасьці, зваротаў мовы ды інш.).

**Грыгаровічу А.** Верш „Дзяльба" задуманы ня дрэнна. Горш справа з тым, што ён не даведзены да канца—абрываецца на самым пачатку дзеі.

**У. Рыўкіну.** Верш „Хата гарбара" нічым не характэрны ні для гарбароў, ні для іх працы. Пісацьжа проста пра хату няма сэнсу. Ды й напісаны ня так ужо гладка, каб можна было друкаваць у часопісі. З лягэндай яшчэ горш: няцікавая тэма.

**Я. Панамарову.** Вершы твае даволі гладка напісаны. Аднак яны ня маюць для нас цікавасьці, бо ў іх няма жаднага зьместу; ёсьць занатоўка тых ці іншых думак адносна прыроды, жаданьняў аўтара... Такія вершы ў часопісі друкаваць ня варта асабліва-ж калі яны ня маюць ніякай суцэльнасьці, пэўнай думкі ды інш.

**В. Уладзімеркову.** Ніякога пляну паводле якога можна было-б пісаць вершы, мы даць ня можам. Найлепшым плянам для цябе і для ўсіх іншых будзе чытаньне літаратурных твораў і нагляданьні за іх будовай. Твой верш пра вясну слабенькі.

**К. Юдыцкаму.** Тэма ў тваім вершы „На балоце" ня дрэнная. Але вельмі-ж вузкае кола нагляданьняў адбіўты ў вершы. Кожны чалавек пры ўспаміне аб вобразе балота ўяўляе сабе куды больш, чым гэта паказана ў вершы – месяц, чарот і лаза зачэплены зусім павярхоўна, ніякай поэтычнасьці ў іх ня знойдзена.

**Беразьняку.** Вершы ў цябе не ўдаліся. Друкаваць іх ня варта.

**С. Мініну.** Верш „На калаўроце" напісаны з настроем. Нават варта было-б зьмясьціць у часопісі каб гэта было к часу.

**Яўг. Курпану.** Казка твая „Шчупак" вельмі прытрымліваецца па зьместу казкі „Рак-вусач". Апрацоўка ня зусім удалая. Скарыстаць казкі нельга.

**Віктару Ільлянкову.** Вершы твае маюць шмат зваганаў з боку разьмеру і мовы. Так пісаць – „*Узрывая сьнежныя гурбіны, бягуць, шумяць усюды руччы. Вясна, вясна, і так упіліся яе чырвоныя лучы*"—нельга.

У вершы павінна быць чыстая мова (без русіцызмаў) і яснасьць у пабудове сказаў. У іншым выпадку верш нагадвае сабою набор слоў, нічога агульнага ня маючых з вершаванай мовай.

**С. Бадрову.** У. Пашкоўскаму, Я. Ярмаку, Невядомскаму, К. Залатарэвічу, Я. Бялькову, А. Салаўю, Ул. Ярмаку, Я. Галіне, Шарупічу, А. Ільлюшэнку, А. Сумнаму, Я. Кручкову, В. Бунтару, Русінаву, І. Пучынскаму, І. Бародку, В. Сухоцкаму Ліўкумовічу, Я. Гарбачову, А. Пятровічу, В. Багданаву, В. Лiберману, Б. Савічу, А. Крушыне, Я. Драніцкаму, З. Сячко, У. Шымановічу, Цыбулі. Грышкевічу, У. Судзілоўскаму, Т. Цалку, і М. Дубіну, К. Сабалю, Я. Меранчуку, А. Бязьмежнаму, Б. Сулімчыку, Б. Вяліконскаму, А. Ярыне, Ю. Рубановічу А. Акулічу, В. Малочку, Е. Макарэвічу – *вершы* ўсіх пералічаных дапішчыкаў выкарыстаны ня будуць. Прычыны тыя-ж якія былі паказаны вышэй пры адказе на паасобныя вершы.

**Гарадзінскаму.** Допіс „Трэба перадаць"—ня пойдзе. Абгаварэце пытаньне аб перадачы піонэраў у камсамол на сходзе атраду.

**Ландарскаму А.** „Піонэры сябры лесу" ня пойдзе. Трэба пісаць што канкрэтна зроблена вашым атрадам у дзень леса.

**Файтліну Ф.** Твае допісы „Больш такіх палітсудоў". „Выбрана бацькоўская камісія" зьмешчаны ня будуць. Ты пішаш аб самых фактах, а не даеш больш па.рабязных матар'ялаў, як гэта работа ў вас была праведзена.

**Савіцкай С.** У допісе „Надыходзіць лета" вы пішаце, што трэба зрабіць (задачы на лета), лепш пішэце, як ваш атрад рыхтуецца і што вамі зроблена.

**Івашкову Я.** Допіс „Мы расьцем" ня пойдзе. Ты пішаш, што ваш атрад вырас за апошні час на некалькі чалавек, але не напісаў, як вы палепшылі работу атраду, чаму вырас ваш атрад.

**Пасьлядовічу.** Адказ на тваё запытаньне ты знойдзеш у часопісі „Б. П." № 1. за 1928 год. Апошняя старонка вокладкі.

**Караткевічу.** „Дайце кіраўніка" ня пойдзе. Пастаўце пытаньне на зборы атраду і перад камсамольскай ячэйкай.

---

## ЗЬМЕСТ



---


Рэдколегія: АДЗІНЕЦ М., БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

*Год выданьня 4-ы.* Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!







**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 10** **МАЙ** **1928 г.**



## В Я С Н А.

Вясна-красна шумлівая,
Ты з песьняю званліваю
І з рэчкай гаманліваю
Ізноў прышла—прыехала,
Прыехала на ўцеху нам.
Яшчэ ледзь досьвіт—раненька—
Абудзяць вёску пранікі;
З усьмешкамі пяшчотнымі
Снуюць жанкі з палотнамі.
Да працы ўсіх заклікала
Вясна-красна шумлівая.
На сонца на спагаднае
Імчацца дзеці радыя.
Бягуць з куткоў цямнюсенькіх,
Як матылькі мітусяцца
На полі, лузе, вуліцы,—
Ніхто цяпер ня журыцца!

А. Чурылавец.





# ТУРНЭПС.

Апавяданьне вучня **Галадоўскага**. Малюнкі **Вало**.

Яшчэ не патухла на захадзе чырвоная стужка. Неба пачало апранацца зорамі.

Ціха, нага за нагу, плёўся па дарозе ў вёску невялічкі шэранькі конік з выпуклымі рабрынамі. Калёсы пішчалі, трашчалі, скачучы па выбоінах. На калёсах сядзеў Мікітка, піонэр, з сваім бацькам Апанасам. Між імі ляжаў плуг і воравы хамут: яны варочаліся з працы.

— Тата,—зьвярнуўся да Апанаса Мікітка,—трэба хоць колькі засеяць турнэпсу і канюшыны, бо гэтак працаваць, як мы працуем, ня цікава...

— Цыц! Без цябе ведаю, што рабіць... Ён яшчэ вучыць будзе...—злосна крыкнуў Апанас і пачаў шлёпаць лейцамі па баку каня.

— Што ты б'еш яго?.. Хочаш, каб зноў заваліўся і качаўся, як на полі. Вось прыедзем дахаты, а там і даць яму няма чаго, аднэй сечкай пхай і пхай бакі,—яшчэ здохне. Паслухай тата, насеньне турнэпсу і канюшыны дадуць у крэдыт. Га?—прасіў Мікітка бацьку.

— Цыц, кажу табе!—і канец лейцаў перацягнуўся наўкола худзенькага цела 11-ці гадовага Мікіткі.

Балюча кальнула ў сэрца іголка крыўды.

За што яго лупіць бацька? За тое, што ён раіць, як лепш зрабіць, каб пазбавіцца ад бяскорміцы, яго б'юць... яму ня вераць... Не, ён дакажа, што праў,—ня дарма ён піонэр...

Сонейка яшчэ не пацалавала зялёнай руні, як Мікітка быў на нагах. „Сёньня бацька паедзе ў мястэчка, значыцца я магу распачаць працу. Пабягу да настаўніка, папрашу ў яго крыху турнэпсу, які ён атрымаў для паказальнага вучастку, ён такі ласкавы, добры, ён дасьць. Тады ўскапаю кавалак зямлі ля хлява. Бацька нічога ня скажа, бо той кавалак усё

роўна прападае так“... развважаў Мікітка, выводзячы пасьвіць каня.

Калі Мікітка прывёў каня дахаты, насеньне турнэпсу ўжо ляжала ў яго за пазухай. Настаўнік даў яму яго не спрачаючыся і нават пахваліў яшчэ Мікітку.

Цэлы дзень капаўся Мікітка за дваром, садзячы турнэпс. Мокрая ад поту сарочка зьвязвала зморанае цела. Хацелася прылегчы ў цяньку. „Скончу—тады буду адпачываць“! сярдзіта сказаў ён у голас, і зямля пад лапатай яшчэ хутчэй стала рассыпацца ва ўсе бакі.

Толькі ўвечары, калі апошнія праменьні сонца красаваліся, замест крапівы, за Апанасавым дваром, з палёгкай уздыхнуў Мікітка.

„Ну, скончыў, цяпер пабачым чыя возьме!“

Дзівіўся Апанас, убачыўшы шнуры за дваром, але парашыў маўчаць.

—·—

Прышло лета. Цэлымі днямі Мікітка працаваў. То з бацькам едзе за сенам, то за снапамі, то абглядае свой турнэпс.

Аднойчы, калі Мікітка сядзеў у сваім агародчыку, да яго прышоў бацька з суседам Архіпам.

— Ну, пакажы, Мікітка, што гэта ты вырасьціў? Дзіўлюся я, дзівяцца і суседзі, што гэта ты выдумаў,—з усьмешкай кажа Апанас.

Ён успомніў, што дарэмна біў Мікітку, і цяпер хацеў як-небудзь загладзіць сваю віну.

Мікітка ўскочыў і хутка выцягнуў турнэпсіну фунтаў з 15. Вочы яго гарэлі жывым аганьком.

— Маладзец, Мікітка!—пахваліў яго Апанас,—такі малы, а зрабіў тое, аб чым я не здагадаўся. Скарыстаў дарэмна пустуючы кавалак зямлі. Не дарма, відаць, ты мне раіш. Выбачай, што дарэмна выцяў цябе.

І неяк добра, добра яму стала. Ад радасьці Мікітка ледзь не заплакаў!

**В. Галадоўскі.**



*Мікітка ўскочыў і выцягнуў турнэпсіну фунтаў пятнаццаць.*




# МІКОЛКА І СЬВІНЬНЯ.

(*Байка*).

1.

Воддаля ад вёскі,
Ля мяжы ля польскай

Хутарок маленькі
Атрымаў наш Сенька.

Жыў ён вельмі бедна.
Не хадзіў к абедне,

Не маліўся богу,
„Бо—казаў:—падмогі

Бог ня даў ніколі“...
А сям'я: Міколка,

Восем год—маленькі,
Ды йшчэ жонка Фэлька...

Ўсім патрэбна есьці,
Каб ня быць галодным...

А кароў ніводнай
Ня было ніколі.

Толькі ў чыстым полі
Пасьвілася сьвінка—

„Галя бела-сьпінка“.
(Так празваў Міколка

Як ганяў на поле
На папас у ранку).

2.

Раз к мяжы прыманку
Прынесьлі жандармы,

І злавіць жадалі
Галю бела-сьпінку...

І тая прыманка—
Здохлае цялятка—

Пахам сабірала
І варон і галак.

Цэлаю навалай
Біліся і пелі
Над здахлячым целам...

3.

Трэ'-ж было Міколу
Выганяць на поле

Галю бела-сьпінку?..
Як пачула сьвінка

Крык і пах здыхлячы—
Толькі яе й бачыў:

Лыч задрала ўгору
Ды к палякам ходу

За мяжу на ўцёкі
Да прыманкі „цёплай“...

4.

А за сьвінкай хлопча:
Дагнаць яе хоча.

Прэцца, даганяе,
Ўсё далей сігае.

5.

Толькі за чужою
(Польскаю мяжою)

Праляцеў ён гоні,
Як за ім здагонам,

Бы камар запела—
Куля праляцела.

І крычаць жандармы:
„Стой! Усё роўна дарма!

Не ўцячэш нікуды!!“
І стаіць закуты

Між палякаў Коля.
Ні пабегчы ў поле,

Ні ўцячы дахаты...
„Эх каб бачыў тата!—

Думае Мікола:
Захапіў-бы кол ён

Ды пабіў адразу
Гэтую заразу!

Адабраў-бы сьвінку,
Галю бела-сьпінку“.

6.

Падышоўшы блізка
Да Міколы, нізкі

Той ваяка польскі
Запытаўся? „Колькі

Табе год цяпера?“
„Восем яшчэ толькі“,—

адказаў нясьмела
Хлопец, ды заплакаў...

„Бач, псякрэў сабачы
Распусьціў тут нюні!

Пасядзіш у пуні—
Будзеш добра ведаць,



Як чужым абедаць.
Мы ўсё добра знаем...

Ну, ступай за намі
Пасядзіш, дык скажаш,

А ня то пакажам,
Як хаваць чырвоных

Ды хадзіць за гоні
За мяжу чужую

Выглядаць буржуяў!“
І малога хлопца

Павялі дарогай
У турму да Вільні,

Ды сачылі пільна,
Каб ня ўцёк, нябога.

7.

І ляжаў на нарах
Дзень і ноч Мікола,

Ўспамінаў пра поле,
Дзе стаяла хатка,

Ўспамінаў як матка
Там яго кахала

І ў душу запала
І туга, і горач.

Хоць-бы раз у горад
Пагуляць пусьцілі?

8.

Нехта раз праз дзьверы
Кінуў ліст паперы

У пакой Міколы.
Ну, а наш Мікола

Сам быў няпісьменны...
Дык назаўтра Стася

(Стоража старога
Гэтага-ж вастрогу)

Папрасіў нясьмела
Прачытаць той белы

Ліст паперы нейчы,
Што ўляцеў увечар.

„Дзядзька!.. прачытайце?"
І ўзглянуў на Стася

Ён дзіцячым тварам...
Ну, давай, таварыш!

„Э! Чырвоны піша?
Толькі, хлопчык, ціха,

Не паказвай болей
Гэнералам польскім,

А то шчэ' застрэляць".
І захлопнуў дзьверы.

9.

Толькі аж на лета
Разьвітаўся з гэтым

Хлапчына пакоем.
У месца другое

Адвялі жандаркі—
Гады, недавяркі,

Дзе былі чырвоных
Цэлыя калёны.

І між іх маломү
Жылося, як дома.

Яго ўсе кахалі...
Хутка паказалі

Хлопчыку Міколу,
Як чытаць па кніжцы
І пісаць самому.

10.

А праз год, ня болей,
Так, па добрай волі

Абмен учынілі—
Палякаў на нашых...

І хлопца пусьцілі:
Пры сабе дахаты,
Да маткі і таты!

С. Калугін.

# Мой сон.

Лёг я вечарам на печы,
Ды ўкрыўся трохі нечым.

Так сагрэўся, задрамаў,
Тут ка мне і сон прыстаў.

Сьніцца мне: плыву я ў чоўне,
Ка мне вецер хвалю гоніць

Усё бліжай, бліжай, бліжай,
Ужо хваляй човен ліжа.

А я яго падганяю,
Ды на ваду пазіраю.

Раптам вецер уздыхнуў,
Ды мой човен абярнуў.

Я, нырнуўшы галавой,
Пайшоў уніз за вадой.

А тут вецер закруціўся;
Я ад страху прахапіўся.

Цьфу! які ня добры сон:
Напужаў да сьмерці ён.

Язэп Гайдукевіч.






*Нарыс Н. Беліна-Падгаецкага.* *Малюнкі А. Абрамава.*

Далёка ў гарах Шатляндыі, вярстох у трыццаці ад галоўнага гораду Эдынбурга, разгарнуўся багаты маёнтак лёрда Кэнбэрыйскага. Стары палац поўны розных паданьняў і казак, сумна пазірае на ваколіцу.

Так, выдатны род старога лёрда! Бесканцовым ланцугом вісяць партрэты яго продкаў—рыцараў, гэнералаў і розных іншых чыноў, на ўсіх сьценах галоўных пакояў. І не адно забойства, ні адзін зьдзек з бедных ляжыць на сумленьні ў кожнага з гэтых продкаў.

Чародамі, натоўпам устаюць ва ўяўленьні лёрда цені замучаных ім людзей і прагна лезуць да яго на расправу за зьдзекі.

Але гэта толькі часамі яму здаецца.

Сапраўды-ж лёрд больш чым спакойны. Праз тоўстыя муры не даходзіць да яго енк і плач яго паднявольных вуглякопаў і слуг. Ён ведае, што калі-б паднявольныя і ўзьняліся на расправу, паўсталі, дык ёсьць для гэтага спадзейная сіла... Гэта сіла—розныя Макданальды, Томасы—за грошы ўгаворыць паднявольных і не дапусьціць іх з аружжам у руках выступіць супроць лёрда і разбурыць яго векавечны спакой і раскошнае жыцьцё.

Горды быў стары лёрд. Паднявольных сваіх ён і за людзей ня лічыў. Ніколі не пацікавіўся іх працаю і жыцьцём. Бо дзе яму? Усе людзі супроць яго—гэта нікчэмныя мошкі,—так думаў лёрд.

Адзін толькі раз у год сходзіў лёрд з свайго высокага месца ў гушчу людзей. Гэта бывала на каляды. Такі быў звычай з старых часоў. У гэты час зьбіраліся ў вялізарным пакоі ўсе слугі, рабочыя. Тут пад кіраўніцтвам папа сьпявалі розныя сьвятыя песьні і гімны ў гонар свайго пана-лёрда. Вось на гэта зборышча і прыходзіў лёрд.

Дзецям у гэты дзень даваліся сякія-такія падарункі... А на другі дзень зноў усё ішло па-старому...

Але, хто-б мог толькі падумаць, што гэткае, здавалася-б ціхае ды мірнае жыцьцё, будзе парушана маленькім хлопчыкам, сынам вуглякопа, Джон Рыдам?

* * *

Вы ня ведаеце Джона Рыда? А між іншым у сябе на бацькаўшчыне ў Шатляндыі ён цяпер даволі вядомая асоба на цэлыя дзесяткі кілёмэтраў. Бадай на-

ват больш вядомая за папа, які кожную нядзелю сьпявае ў царкве такія нікчэмныя і сьлюнявыя песьні аб тым, што трэба слухацца лёрда і баяцца бога.

Джон Рыд быў з першых ангельскіх дзяцей, якім удалося ўласнымі вачыма ўбачыць краіну Саветаў і пазнаць розніцу паміж сваёй краінай і Савецкай. Падарожжа Джон Рыда з сваім бацькам, разам з дэлегацыяй Ангельскіх рабочых у СССР зрабіла на хлопчыка найвялікшае ўражаньне.

І калі пасьля падарожжа дэлегацыі бацька стаў камуністым, дык і сын з гордасьцю адзеў піонэрскі гальштук, даўшы зарок юным піонэрам СССР змагацца за піонэрскія атрады ў сябе дома, у Шатляндыі.


*Чародамі ўстаюць ва ўяўленьні лёрда цені замучаных ім людзей...*

Праз увесь час бацьку Джона і яму самому даводзілася весьці гутаркі сярод вакольнага насельніцтва аб сваім падарожжы, і самае галоўнае, аб жыцьці працоўных у краіне саветаў.

Маленькі Джон Рыд заўсёды горача заклікаў малых дзяцей аб'яднацца па прыкладу Савецкіх дзяцей у піонэрскія атрады і рыхтавацца да будучага змаганьня за волю працоўных у іх краіне.

І вось гэты самы Джон—першы піонэр у сваёй акрузе—учыніў вельмі няпрыемны жарт над багатым і славутым лёрдам Кэнбэрыйскім.

Яшчэ задоўга да каляд Джон апавясьціў усіх, што перад самымі калядамі ўвечары ў яго на кватэры адбудзецца вялікі сход усіх дзяцей сваёй мясцовасьці. На сходзе дзеці організуюць свае піонэрскія атрады. Кожнаму будуць выданы чырвоныя гальштукі.

Апрача гэтага, было сказана, што ён і яго бацька раскажуць на гэтым вечары шмат чаго цікавага з жыцьця Савецкага Саюзу, пакажуць розныя фатаграфіі, што прывезьлі з Савецкага Саюзу.

Вестка аб такім вечары жыва абляцела ўсе закуткі, усе хаты. Усе толькі і гаварылі ў гэты час аб надыходзячым вечары ў Джона Рыда.

Пра вечар-жа ў лёрда нават і забыліся.

У вызначаны час маленькая хатка бацькі Джон Рыда была поўна набіта людзьмі. Усе слугі лёрда зацікавіліся гэтым і прышлі паслухаць простых і шчырых расказаў бацькі Джона аб усім тым, што бачыла іх дэлегацыя ў краіне працоўных.

Расказалі яны аб заводах, аб 8-гадзін. працоўным дні, аб жыцьці дзяцей: ясьлях, школах, санаторыях...

— Дык гэта-ж сапраўдная дзяржава рабочых!—дзівіліся шмат хто з прысутных.

— За гэткае жыцьцё варта змагацца!—чутны былі галасы рабочых.

А пасьля адбыўся ўрачысты прыём дзяцей рабочых у піонэры.

* * *

Шмат было пустых месц у гэты традыцыйны вечар за сталамі ў лёрда. Ды й тыя, што прышлі, мала сьпявалі на гэты раз песень у гонар лёрда і яго славутасьці. Усе шапталіся між сабой аб вечары ў Джона Рыда, аб Савецкім Саюзе...

— Праклятыя бунтаўнікі, языкі-б ім павыразаць, вось-бы ведалі, як склікаць

сваё зборышчы!—лаяўся лёрд і злосна кусаў свае губы.

— У бога ня вераць, аб векавых традыцыях забываюць...—падпяваў яму поп Сміт, цяжка ўздыхаючы і ўплятаючы ў той-жа час смачнае мяса.

Сумным сядзеў у гэты вечар лёрд. У першы раз магчыма закралася ў яго думка аб хісткасьці яго вялічча і славы...

* * *

За сход бацьку Джона, Рычарда Рыда, арыштавалі.

Доўга трымалі ў турмах, а пасьля выкінулі на вуліцу.

Ніякае працы цяпер Рычард дастаць ня мог...



*Маленькі Джон горача заклікаў дзяцей аб'яднацца ў піонэрскія атрады.*

---

# ПАЧНЕМ ПЕРАКЛІЧКУ!

## (Ліст з Фінляндыі).

Дарагія таварышы! *)

Рабочы дзіцячы рух у Фінляндыі пачаўся ўжо даўно. Яшчэ ў 1902 г. склалася некалькі дзіцячых груп „ідэал лігі“. Аднак у 1911 г. царызм убачыў у гэтых групах свайго ворага і забараніў іх існаваньне.

Дзіцячы рух заняпаў.

Калі расійскі пролетарыят тварыў Кастрычнікавую рэвалюцыю, у Фінляндыі організавалася новая рабочая дзіцячая ліга „Суомэн Туавэн яр'е апутр ліліто“ (ліга рабочых дзяцей Фінляндыі). Калі ліга заснавалася, яна налічвала 25000 дзяцей.

Вясною 1918 г. фінскі пролетарыят не перамог у сваёй рэвалюцыі. Перамагла буржуазія. Запанаваў белы тэрор. Загінулі ўсе рабочыя лігі.

Аднак пралетарыят быў, як пералётная птушка. Прашоў нейкі час і лігі зноў пачалі сваю працу, а разам з імі і наша дзіцячая ліга.

У 1919 годзе дзіцячы рух значна пашырыўся.

Зараз у лігах налічваецца 4000 членаў. Хоць членаў ня дужа многа, але нашы атрады працуюць добра.

Члены лігі працуюць з захапленьнем. Бацькі цікавяцца нашымі групамі і дапамагаюць ім у працы.

Фундамэнт нашай лігі ня ўвесь піонэрскі, бо піонэрскі рух мала знаём фінскім дзецям, але за апошні час многія групы пераходзяць на піонэр-атрады. Дзеці піонэррухам надта цікавяцца і заўжды пытаюцца:

„Калі наша ліга стане піонэрскай?!“

Ліга і па гэты час ня мае сваёй формы, але за апошні час атрады яе набываюць.

Атрады зьбіраюцца ў рабочых дамох, бо зьбірацца ў школах забараняюць.

Мы выпускаем адну часопісь „Пуналіппу“ („чырвоны штандар“), якая выходзіць два раза ў месяц. На мове эспэранто часопісь вядзе парапіску з дзяцьмі ўсяго сьвету.

Дарагія таварышы! Надта нас цікавіць дысцыпліна ў вашых атрадах, насьценныя газэты, экскурсыі, маёўкі і г. д.

Дзеці працоўных! юныя піонэры! Пачнем пераклічку, наша дапаможная мова— эспэранто.

Гэльсінфорс,
Фінляндыя.

*) Ліст 8 і 9-му атрадам г. Менска.

# ПІОНЭРСКІ РУХ У ШВЭЙЦАРЫІ.

## (Ліст на мове эспэранто).

Ужо некалькі год у Швэйцарыі побач з рабочым рухам існуюць піонэрскія організацыі. Аднак яны доўгі час былі занадта слабымі, і ня мелі ніякага ўплыву на дзяцей. Гэта быў надта цяжкі пэрыяд, і ня толькі ў дзіцячым комуністычным руху.

Нашыя піонэрскія групы спачатку займаліся толькі вандроўкай з аднае мясцовасьці ў другую і ў час сходаў апавядалі адна другой, што кожная з іх бачыла ў дарозе, галоўным чынам з жыцьця рабочых. На першы час было досыць і гэтага, але пасьля пачалі шукаць новых шляхоў, каб з дзяцей выхаваць добрых барацьбітоў.

Зьвернем увагу на школы, там дзе больш чым дзе-небудзь дзяцей і павінен знаходзіцца асяродак працы.

Лепш другіх зразумелі сваю задачу піонэры з Базэля: ужо з паўгода яны працуюць пановаму. Ці дасяглі яны посьпехаў?

Дасяглі, бо калі яшчэ ў Маі 1927 г. Базэльская піонэрская група мела 20—25 чалавек, ня зусім акуратна наведваўшых сходы, ня плоцячых сяброўскіх узносаў, без кантроля членства, дык цяпер мы там маем досыць добры рабочы атрад.

Базэльскія піонэры ў працягу мінулага лета ня толькі рабілі экскурсіі, але і многае абмяркоўвалі, асабліва аб працы ячэек пры школах, аб тым, як дапамагчы школьнікам організаваць свой атрад. Пасьля доўгіх сяброўскіх абгаварэньняў і спрэчак правільны шлях быў знойдзен. Школьныя ячэйкі зараз працуюць добра і акуратна склікаюць сходы. Тры ячэйкі кіруюцца самімі дзяцьмі, дарослы кіраўнік толькі назірае за працай і беспасрэдна кіруе толькі тым сходам, на якім абгаварваюцца політычныя пытаньні.

Усяго ў г. Базэле працуе 6 піонэрскіх ячэек, з якіх адна ў прыгарадзе Базэля—Рагале з 24 членамі, якія носяць піонэрскую форму. Ва ўсім-жа Базэле ўсяго 55 піонэраў. Сваёй актыўнасьцю піонэры перамаглі недаверчывасьць к сабе з боку дарослых рабочых і заслужылі к сабе іх поўнае даверра. Мэта піонэраў Базэля мець у сваіх шэрагах к 1-аму маю 1928 г. 100 чалавек.

Таварышы з СССР, мусіць, пасьмяюцца з нашае працы і колькасьці піонэраў, але не забывайцеся, што ў Швэйцарыі працуе многа буржуазных дзіцячых орнізацый. Настаўнікі ў школах ненавідзяць піонэраў, ды і з боку бацькоў сустракаюцца пярэчаньні. Памятайце, што і ў СССР, да рэвалюцыі ня было ніводнага піонэра.

Калі рэвалюцыя прыдзе да нас, яна знойдзе нас на належным месцы.

Заўжды гатовы!

**Базэль-Цюрух.**

Швэйцарыя.




*Часопісі залежных піонэраў.*

# ЛІСТ ЛЮЧЭТЫ.

Мне было 3 гады. Памятаю, як я і мама хадзілі ў нейкі вялікі дом. Там, за жалезнымі кратамі, сядзеў тата, худы, бледны. Потым ён вярнуўся дамоў. Яго пабілі фашыстыя, і галава была перавязана.

Тату не давалі работы, і маме забаранілі вучыць дзяцей. Часта, уночы, да нас прыходзілі нейкія людзі, пераварочвалі ўсё ўверх дном. Прышлося пераехаць да бабулі. Покуль жылі ў яе, мама нарадзіла хлопчыка, майго брата. Хутка пасьля гэтага мы па сакрэту ад усіх выехалі ў другі горад і сталі называцца другімі імёнамі.

Жылі вельмі дрэнна, галадавалі, брацік захварэў. Ледзь не памёр. Прыяжджала бабуля, вельмі плакала. Але дзіця адчуняла.

Мы парашылі ізноў пераехаць да бубулі. Прыехалі. Аказалася, што фашыстыя разбурылі дом бабулі за тое, што яна нас прытуліла. Зьмясьціліся мы на гары. Але і адтуль прышлося выехаць.

Памятую адну раніцу. Людзі, якіх мама звала „паліцэйскія“, стукалі ў дзьверы. Яны хацелі забраць тату. Але ён, напалову апрануты, выскачыў з вакна проста ў агарод. „Паліцэйскія“ ўламаліся ў хату, крычалі на маму, каб яна сказала, дзе схаваўся тата.

Але мама не баялася. Яна сьмела гаварыла ім розныя выдумкі. Я ведала, што яна выдумлёўвае, ведала, дзе быў тата, але калі-б яны мяне запыталі, я не сказала-б ім. Справа станавілася ўсё горш. Мне загадалі не адказваць на ўсе запытаньні чужых людзей, бо інакш фашыстыя знойдуць тату і пасадзяць у турму.

Я чула шмат страшных гутарак, хоць ад мяне іх стараліся схаваць.

Жудасныя рэчы!

З татам зрабілі нешта вельмі дрэннае. У яго чорна пад вачыма, вочы апухлыя, рукі звараны ў кіпені, увесь паколаты... Прывезьлі парваную і пакрываўленую рубашку. Дзе-ж ён быў? Гэтага я ня ведала.

Фашысты не дазвалялі памагчы яму. Калі дзед пайшоў да яго, каб занесьці вопратку, дзеда арыштавалі на некалькі дзён і дапытваліся, дзе мама. Але ён нічога не казаў: ён ведаў, што яго арыштуюць.

Рабілася ўсё больш страшна. Бабуля старая і ня вельмі здаровая, магла трымаць на руках толькі брата. Ён малы, ня ўмеў гаварыць, яму няма чаго баяцца.

Іншая рэч—я! Куды падзець мяне? Парашылі пасла̀ць у Маскву. І я накіравалася ў далёкую дарогу.

Вось я ў Маскве. Тут усе таварышы і няма фашыстых!

Толькі калі ў Італіі ўсё пераменіцца, я змагу вярнуцца к сваім мілым.

Мне тут вельмі добра. Усе мяне любяць. У школе шмат у мяне сяброў. Я гуляю з імі. Але я часта думаю аб маім брацiку і іншых дзецях Італіі, якія перажываюць тое, што перажыла я, а магчыма, яшчэ горшае.

Мне вельмі хочацца плакаць.

А мая мама? Ці нашлі яе фашысты? Я гэтак далёка ад яе. Ня чую яе. Ня чую яе голасу, ня бачу яе:

Магчыма, яна таксама ў турме, а я ня ведаю аб гэтым. Каб не разжаліць мяне, таварышы, напэўна, ня кажуць мне праўды.

Але-ж я не адна—усе пролетарскія дзеці ў Італіі вельмі пакутуюць. Хутчэйбы мне вырасьці! Я таксама-ж, як тата і мама буду рабіць усё, каб у Італіі было так, як у вас, у СССР.

**Лючэта, 8 гадоў.**



# ВОЛЬНЫ ЧАС ПРАВОДЗЬ ВЕСЕЛА І ЦІКАВА.

(*Як арганізаваць свой адпачынак*).

Калі, аднойчы, я зайшоў у атрад імя Рыкава, я быў зьдзіўлены тым малюнкам, які паўстаў перада мной.

Піонэры і піонэркі разьмясьціліся хто дзе: хто каля стала, хто ля табурэткі, а хто проста на падлозе. Адусюль глядзелі самымі размаітымі хварбамі лісткі каляровай паперы. У руках у піонэраў я заўважыў ножанкі, ніткі, іголкі, пляшачкі гуміра́біку; тут-жа хадзіла незнаёмая мне жанчына. Гэта была маці аднэй піонэркі,—краўчыха. Яна прыйшла дапамагчы піонэрам у падрыхтоўцы да *гарнітураванага вечару*.

— Цераз тыдзень у нас гадавіна атраду,—адказаў мне адзін піонэр на маё запытаньне, што ў іх такое робіцца.

— Мы абвясьцілі конкурс на лепшы плян правядзеньня вечару. Да конкурсу мы прыцягнулі таксама і бацькоў піонэраў: на адным з сходаў бацькоў мы паставілі пытаньне аб гэтым, і вось матка піонэркі Тані прапанавала наладзіць гарнітураваны вечар. Мы купілі рознай каляровай паперы і кожны піонэр выбраў сабе той ці іншы гарнітур. Матка Тані згадзілася ў вольны час дапамагаць нам: яна нам скройвае, паказвае, як шыць, як падклейваць канцы.

Растлумачыўшы, мне зрабілі запрашэньне на вечар, і папрасілі, покуль што не глядзець на падрыхтоўчую работу. Яны кажуць, што мне будзе шмат цікавей, калі я ўбачу іх у гатовых гарнітурах.

Цераз тыдзень я прыйшоў на сьвяткаваньне гадавіны атраду імя Рыкава. І трэба сказаць, што вечар быў надзвычайна цікавы.

Якіх толькі гарнітураў тут ні было!

— Вось ідзе „СССР“. Яе гарнітур пашыты з чырвонай паперы; на грудзёх блішчыць серп і молат, зробленыя з кардону і пахварбаваныя залацістаю хварбай; праз рукавы прымацаваны каласы жыта, а за сьпіною, на тоненькай палосцы прымацаваны чырвоны сьцяг.

Вось круціцца „Чэмбэрлен“, які адзеў бацькаў пінджак, каўнерчык з гальштукам, а на галаву вялізны цыліндр з чорнае бліскучае паперы. Поруч з Чэмбэрленам спацыруе „фашыст“, у чорнай рубашцы, з нашытым фашысцкім значком з белай паперы.

Малодшае зьвяно атраду было—„інтэрнацыянал“. Яны былі ў гарнітурах розных народаў: тут былі і кітайцы ў шырокіх халатах, і немцы ў пінджакох і кепках, і італьянцы з кароткімі штанамі ў панчохах, і японцы ў белых халацінах, і самаеды, з аўчыннымі каўнярамі (з ваты). Шмат якія піонэркі прышлі ў беларускіх і украінскіх гарнітурах.

Цікавыя былі гарнітуры сярэдняга зьвяна. Гэтае зьвяно, якое асабліва стала выдатным сваёй антырэлігійнай работай, паказала папоў, рабінаў, ксяндзоў, магамецкіх мулаў, чарцей і ангелаў, выклікала вясёлы сьмех ва ўсіх прысутных.

Гарнітуры старэйшага зьвяна былі самыя размаітыя. „СССР“, „Чэмбэрлен,“ „Фашыст“ — належылі да гэтага зьвяна.

Два піонэры былі: адзін—„піонэр“, другі—„неахайнік“. Першы быў у піонэрскім гарнітуры, а другі ў доўгіх штанах „клёш“, задрыпаных і падраных унізе, у зубах у яго тырчала вялізарная папяроса, а твару дык і не пазнаць—так быў забруджаны. Косы ў неахайніка былі доў-




*Якіх толькі гарнітураў тут ня было!*

гія, раскудлачаныя (гэты піонэр зрабіў сабе парык). Цікавы быў таксама і гарнітур „Чытай газэты“. Ён быў пашыты цалкам з газэт і часопісяй.

Я апісваю гэтыя гарнітуры не для таго, каб твой атрад іх ў дакладнасьці пераняў. Наадварот, трэба самім прыдумліваць, пастарацца зрабіць яшчэ больш цікавыя гарнітуры. Ня ўсе гарнітуры на гэтым вечары былі з паперы: скарысталі і старыя вопраткі саміх піонэраў, іх братоў і сёстраў, скарысталі простыні і г. д.

Астатняя частка вечара была звычайнага зьместу: іграў шумавы аркестр, піонэры ў гарнітурах дэклямавалі вершы, а потым усе сьпявалі песьні, гулялі, развязвалі шарады.

Гадзіны з паўтары да сканчэньня вечару ўсе прысутныя пасталі ў два рады ля сьцен пакою, а па сярэдзіне прамаршыраваў увесь „Інтэрнацыянал“—малодшае зьвяно, якое павінна было ісьці ўжо дамоў. Астатнія піонэры яшчэ засталіся і выканалі агульны танец, якому вывучыў іх камсамолец-фізкультурнік.

На вечары было шмат запрошаных піонэраў з другіх атрадаў, бацькоў, комсамольцаў і чырвонаармейцаў. У канцы вечара ўсе яны патрабавалі прызначэньня прэміі за лепшы гарнітур. Большасьць спынілася на гарнітуры СССР. Піонэрцы, якая пашыла яго, комсамольская ячэйка выпісала на 6 месяцаў „Белар. Піонэр“.

## Арганізуйце і праводзьце цікавыя гульні!

На вечарох, ды й так у вольны час, піонэры іншы раз гэтак набегаюцца, што з вялікай прыемнасьцю пасядзелі-б, адпачылі. Гэты момант добра выкарыстаць для „гульняў у крузе“. Я ня буду расказваць аб шмат якіх сядзячых гульнях, пра якія ведаюць усе піонэры (падміргваньне, мора хвалюецца і інш). Раскажу толькі аб такіх гульнях, якія, будучы цікавымі, разам з тым і карыстныя для разумовага разьвіцьця дзяцей. Пры тым, для такіх гульняў не патрэбна шмат удзельнікаў. Калі вольныя два, тры, чатыры, піонэры—яны з посьпехам могуць правесьці свой адпачынак пасеўшы навакол стала ці проста на канапе.

Першую гульню назавем

### „Гулец пісьменьнік“.

Адзін піонэр называе прозьвішча якога небудзь пісьменьніка, напр., Коласа, і яго сусед павінен назваць які-небудзь твор гэтага пісьменьніка („Сымон Музыка“), наступны—другі твор („У Палескай глушы“) і г. д., покуль ня будуць названы вядомыя піонэрам творы гэтага аўтара. Калі які-небудзь піонэр ня ведае ніякага твору названага пісьменьніка, за яго адказвае яго сусед, а гэтаму піонэру прапануецца прачытаць якое-небудзь апавяданьне, верш ці паэму памянёнага пісьменьніка.

Гэту-ж гульню можна організаваць паіншаму. Гульцы садзяцца колам. Адзін піонэр кідае хустачку, скручаную вузлам, любому з прысутных і называе прозьвішча пісьменьніка. Піонэр, якому кінута хустачка, ловіць яе, называе адзін з твораў гэтага пісьменьніка і кідае хустачку другому, называючы прозьвішча другога пісьменьніка. Можна заміж прозьвішча пісьменьнікаў, называць творы, а той, хто злавіў хустачку, павінен у гэтым выпадку называць аўтара гэтага твору. (Штраф такі самы, як і ў першым выпадку).

Другую гульню назавем

### „Гуляй у рыфму“.

Адзін з прысутных называе якое небудзь слова, напр., „канец“, яго сусед



*Сярэдняе зьвяно паказала папоў, рабінаў, чарцей...*

павінен сказаць другое слова з гэтакім самым канчаткам (у рыфму), напр., „вянец, барэц“. Калі адзін з гульцоў ня зможа назваць слова ў рыфму, адказвае яго сусед і гэты піонэр выбывае з гульні. Калі з гульні выбудзе большасьць гульцоў, называецца слова з другім канчаткам і, вядома, у гульні прыймаюць удзел ужо ўсе гульцы.

3-цяя гульня будзе названа намі

### „З аднаго слова“.

Кожны з удзельнікаў дастае кавалак паперы і карандаш. Па агульнаму жаданьню выбіраецца якое-небудзь доўгае слова, напрыклад—соцыялістычная. Кожны ўдзельнік стараецца напісаць на сваёй паперы чым болей слоў, якія складаюцца з тых літараў, што ўваходзяць у слова „соцыялістычная“. Напрыклад: ліст, солісты, сотка, сок, час, і г. д. Пасьля пэўнага часу ўсе спыняюць пісаньне і тады падлічваецца, колькі хто напісаў слоў.

### „Гальма“.

Цікавую гульню можна організаваць з дапамогаю простай шахматнай дошкі і шашачных ці шахматных пешак. Дошку трэба паставіць вугламі ў бок удзельнікаў. Пешкі расстаўляюцца як на белых, гэтак і на чорных клетках. Задача ўдзельнікаў гульні—перавесьці ўсе свае пешкі ў процілеглы вугал і паставіць іх там у форме правільнага чатырохкутніка.

Пешкі могуць пасоўвацца толькі па простаму напрамку ўверх, уніз, ці ў бок, як ходзіць тура ў шахматах, з той толькі розьніцай, што прасоўваць пешку можна толькі на наступную клетку. Аднак, калі перад пешкаю стаіць другая пешка (свая ці другога ўдзельніка гульні), і чарговая за ёю клетка вольная, першая пешка можа перасоўвацца праз суседнюю і станавіцца на вольную клетку. Калі поруч будзе яшчэ адна пешка



з чарговай вольнай клеткай, перасоўваньне ідзе і далей.

„Зьядаць“ пешкі ня трэба. Дзеля таго, каб барджэй перавесьці свае пешкі ў процілеглы кут, трэба старацца так іх разьмяркоўваць, каб адным ходам прасунуць сваю пешку далёка ўперад, выкарыстоўваючы пры гэтым таксама разьмеркаваньне пешак другім удзельнікам гульні. Разам з тым, трэба старацца, каб другі ўдзельнік ня мог прасоўваць свае пешкі адразу на некалькі клетак. Для гэтага трэба зьнімаць сваю пешку ці прыстаўляць яе поруч ля другой, тады супраціўнік ня зможа „скакаць“.

У гульні ня трэба забывацца пра свае крайнія пешкі. Іх трэба прасоўваць у сьлед за пярэднімі, іначай ім пагражае небясьпека апынуцца на месцы вольным ад іншых пешак і прасоўвацца робячы хады ад адной клеткі да суседняй.

Выйграе партыю той, хто першым прывядзе свае пешкі ў процілеглы кут і расставіць іх там (гл. малюнак).

У „гальму“ можна гуляць і чатыром чалавекам адначасова. Кожная пара гуляе зусім самастойна, але можа скарыстоўваць для „пераскакваньня“ і пешкі другой пары. Можна пры гульні ў чацьвярых злучацца двaім, што сядзяць поруч, у адну партыю для ўзаемнай дапамогі.

**Л. Розенблюм.**



# БЕРАЖЫСЯ АД ВОСПЫ.

Воспа—хвароба вельмі заразная. Заразіцца воспаю могуць усе людзі рознага ўзросту, як дзеці, так і дарослыя. Але, калі чалавек ужо раз хварэе на воспу, больш воспа не заражае яго.

Заражэньне перадаецца праз паветра: так што ўжо аднаго суседзтва з хворым досыць для заражэньня.

Зараз ны пачатак воспы вельмі трывалы і ня скора гіне. Такім чынам, вельмі лёгка заразіцца цераз вопратку, бялізну, цацкі, кнігі, газэты і іншя рэчы, якія былі забруджаны хворымі.

Час ад пачатку заражэньня да моманту, калі захварэе чалавек, цягнецца два тыдні. Хвароба пачынаецца раптоўна і мае наступныя адзнакі: холад і дрыжыкі, трасца, боль галавы і боль у паясьніцы.

Гэта самыя характэрныя прыкметы хваробы. Але апроч гэтага наглядаецца яшчэ цэлы шэраг адзнак: страта апэтыту, часьцей б'е пульс, няпрытомнасьць, інагды—ванітаваньне, запор.

Гарачка дасягае 40 градусаў, і нават болей. Ужо на другі дзень, бывае, у некаторых месцах скуры пракідаюцца плямкі, якія на працягу сутак прападаюць.

На 3-4 дзень пачынаецца час высыпаньня воспы. Восьпеная сыпка раней усяго зьяўляецца на твары і галаве, потым на тулаве, руках і нагах.

Спачатку восьпенная сыпка мае выгляд невялічкіх чырвоненькіх плямак. Цераз 2 дні плямачкі ператвараюцца ў вузьлікі. На шосты дзень пасьля высыпкі з вузьлікаў робяцца гнойныя пузыркі.

Восьпеныя пузыркі звычайна абкружаны чырвоным абадком. Асабліва ў вялікай колькасьці воспа зьяўляецца на пальцах рук.

Як толькі воспа высыпле, гарачка крыху зьмяншаецца, але як толькі пузыркі пачынаюць гнаіцца—зноў падымаецца. На 12-13 дзень сыпка пачынае падсыхаць. На месцы лопнутых пузыркоў ствараюцца струпкі, якія цераз некалькі дзён пачынаюць адвальвацца. Адвальваньне струпкоў цягнецца 3-4 тыдні, пры гэтым хворага бяруць дрыжыкі.

Калі пузыркі даходзяць да глыбокіх пластоў скуры, дык пасьля выздараўленьня застаюцца назаўсёды воспеныя рубцы, якія робяць брыдкім твар.

Даўней эпідэміі воспы бралі амаль сотні тысяч ахвяр у кожнай старонцы штогод. Але ў наш час гэтая хвароба амаль зусім не сустракаецца, прынамсі ў тых мясцох, дзе акуратна адбываецца воспа-шчапленьне.

Гісторыя воспа-шчапленьня наступная: у 1876 годзе ангельскі дасьледчык Джэпэр упяршыню пачаў шчапляць воспу. Кіраваўся ён тым, што на працягу шэрагу гадоў ён заўважваў, што калі чалавек заражаецца воспаю ад хворых кароў, дык хвароба тады праходзіць лягчэй. Гэта навяло яго на тое, каб знарок прышчапіць чалавеку воспу каровы, з мэтай палегчыць хваробу, ці, можа, і наогул зьнішчыць яе.

Цяпер у кожнай культурнай краіне маюцца спэцыяльныя інстытуты, дзе вырабляецца воспа.

Вырабляецца яна так, чалавечай воспай заражаюць цялят. Калі ў цялят зьяўляюцца празрыстыя пузыркі на скуры, яны выціскаюцца і гэтая выціснутая воспа запакоўваецца ў шкляныя трубачкі.

Чалавек, якому шчапляюць такую воспу, не заражаецца ёю цэлых 7-10 гадоў.

Як шчапляюць воспу? Воспу заўсёды шчапляюць на скуры рукі. Скура крышку надрэзваецца і туды капаюць каплю восьпенага соку. Праз 3-5 дзён на прарэзаным месцы ствараюцца пузыркі. На 11-12 дзень пузыркі пачынаюць падсыхаць і зусім адвальваюцца.

Д-р **М. Сандамірскі**



# СЯРОД ЖЫВЫХ ЗЬВЯРОЎ.

Хто з нас, разглядаючы на малюнках розных зьвяроў, альбо чытаючы пра іх у кніжках, не адчуваў жаданьня пабачыць іх жывымі.

Вось чаму прыемнай для ўсіх і нечаканай зьявілася вестка аб тым, што ў Менск прыяжджае вандроўны зоолёгічны музэй.

З першага-ж дню прыезду музэю сотні людзей, старых і малых, павалілі паглядзець сапраўдных зьвяроў. Тыя, каму пашанцавала трапіць у музэй з першага дню, станавіліся ў атрадах і школах „гэроямі“; вакол іх зьбіралася астатняя дзетвара, каб паслухаць, якія зьвяры прыбылі, колькі іх, як яны выглядаюць і інш.

Праўда музэй асабліва вялікім назваць нельга, але-ж для нас прыезд яго складае цэлае здарэньне, бо ў ім сабраны больш-менш усе галоўныя прадстаунікі зьвярынага царства.

* * *

Яшчэ пры ўваходзе цябе аглушаюць дзіўныя зыкі, піск,—гэта крычаць тропічные птушкі-папугаі, пішчаць малпы, часта раве леў.

Пры ўваходзе перш за ўсё вы спыніцеся перад дзікімі стэповымі птушкамі з рознакаляровымі пер‘ямі,—гэта фазаны, якія крыху падобны да нашых курэй, а таксама невялічкія зьвяркі з Паўднёвай Амэрыкі—„броняносцы“. Апошнія адзначаюцца тым, што ўся іх сьпіна пакрыта моцнай рагавой броньню, якую, як кажуць, не праб‘еш нават і сякерай.



*Самы злосны зьвер леопард.*

Вельмі многа малпаў розных гатункаў і парод. Гэтыя невялікія жывёлы маюць вясёлы характар і ахвотна сябруюць з глядачамі, калі пераконваюцца, што тыя іх не намераны дражніць. Яны з ахвотаю зьядуць цукерку ці гарбузік, які вы ім падасьце з рукі ў клетку, дадуць сябе нават пагладзіць па шэрсьці, але гэта ня значыць, што яна дазволіць безнаказана над сабой жартаваць. У такіх выпадках малпа нечакана расчыняе рот, выпростваецца і неўспадзеўку для жартаўніка хопіць яго зубамі.



*Ёсьць людзі, якім зусім ня страшны мядзьведзь: ён прывыкае да чалавека.*

Паўднёва-Амэрыканскія „пекары“, якога вы-б з першага погляду прынялі за звычайную сьвіньню,—злая і неспакойная жывёла. Яна нэрвова ходзіць па

клетцы, імкнецца зубамі схапіць глядача і злуе на тое, што яе лыч не пралазіць праз краты.

З асаблівай цікавасьцю любяць усе паглядзець Афрыканскага дзікаабраза. Гэтая жывёла навялічкая, з сабаку, мае скуру цалкам пакрытую доўгімі і гострымі іголкамі, якія амаль ня прыкметны, калі дзікаабраз знаходзіцца ў спакойным становішчы. Але варта толькі глядачу вывесьці зьвера з гэтага стану, як апошні прымае абараніцельны выгляд і вымушае палахлівага глядача мімаволі адступаць назад.

Ёсьць некалькі ваўкоў, якія знаёмы кожнаму з нас, такіх-жа злосных і прагавітых.

Чорны трохгадовы мядзьведзь „Макс" з першага-ж дню набыў сымпатыю ў публікі і здолеў зрабіцца яе любімцам. У падзяку за цукерку, якую вы дасьце яму зьесьці непасрэдна з сваіх рук, ён вам выканае некалькі забаўных нумароў: стане галавой уніз і нагамі дагары, а таксама выканае яшчэ шэраг іншых „трукаў".

Сваяк „Макса", белы мядзьведзь, з Паўночнага Ледавітага Акіяну — самая буйная па вялічыні жывёла ў гэтым музэі. Ён, як відаць, не адзначаецца злым характарам, гультаяваты ў сваіх рухах, але мімаволі выклікае глядача павагу да сябе сваёй велічынёй: важыць ён каля 50 пудоў.

Азіяцкі леапард—гэта прыгожы, статны, з стракатай скурай кот, ростам з вялікага сабаку. Ён, здаецца, ня ведае ні хвіліны спакою. Ён лёгае ў сваёй цеснай клетцы ўзад і ўперад, пазірае ня добрым вокам на гледачоў.—О, ён-бы паказаў ім на што ён здольны, калі-б знаходзіўся на волі. Нават зараз у няволі ён не небясьпечны для глядачоў, бо на клетцы вісіць плякат:

— „Сьцеражэцеся, не падыходзьце вельмі блізка, бо леапард выкідвае лапы з-за кратаў".

Нездаволена сваім паднявольным становішчам і львіца—гэты цар зьвяроў. Яна не такая дурная, каб без патрэбы бегаць па клетцы, зважае за лепшае ляжаць на адным месцы. Гэтак ёй, мабыць, зручней марыць аб прыгожых стэпах далёкай Афрыкі, дзе яе злавілі паляўнічыя яшчэ ў дзяцінстве і прывезьлі сюды на паказ людзям.

У скрынцы з вадой знаходзіцца Афрыканскі кракадзіл. Гэта вялізарная яшчарыца, якая з першага погляду здаецца няжывой, бо ляжыць без усялякага руху. Але варта толькі паварушыць скрынку ці крануцца палкай яго скуры, каб кракадзіл зьмяніў сваё становішча, ляснуў зубамі і зрабіў пагражаючы рух хвастом. Яму ня так сумна, як іншым сябрам ў няволі, бо ён знаходзіцца разам з сваімі дзяцьмі, двума невялічкімі кракадзіламі.

Ляжыць без усякага руху і доўгая Паўднёва-Амэрыканская зьмяя-удаў, якая з прычыны сваёй небясьпечнасьці знаходзіцца пад шкляным пакрывалам. Гэтая жывёла, даўжынёй у 15 мэтраў, ляжыць скруціўшыся пад шклом.

Далей варта яшчэ адзначыць афрыканскага стравуса, гэтую птушку з доўгімі нагамі і шыяй, стэповага арла—цара птушак, поні—невялічкага шатланскага коніка, ростам са звычайнага жарабка...

* * *

Вандроўны заолёгічны музэй пабудзе ў Менску адзін месяц, пасьля чаго накіруецца ў іншыя акруговыя гарады.

Я. З.



*Цар зьвяроў—леў (самка).*

# СУСТРАКАЕМ ЛЕТА.

## 150 піонэраў—у лягеры.

На сходзе актыву старшыня Райбюро Ю. П. зрабіў гутарку аб падрыхтоўцы да лягераў. Многа піонэраў уносілі шмат практычных прапаноў па падрыхтоўцы да лягеру.

Вынесена пастанова, каб прапрацаваць гэтае пытаньне па атрадах, організаваць „капілкі", платныя вечары, бацькаўскія фонды, прасіць дапамогі ад прафсаюзаў і ячэек КПБ і КСМ.

Цяпер па атрадах мы маем ужо 41 рубель 50 капеек. Лягернай камісіяй гораду праводзяцца кіно-сэансы ў карысьць лягераў. Тэхнікум, 2-ая, 3-ая і 4-ая школы ставяць вечары на карысьць піонэрскага лягеру. Гэтак сама і атрады пачалі падрыхтоўку да платных вечароў.

Думаем вывесьці з гораду 150 піонэраў у лягеры.

Б. Раўбаль.

(Рагачоў. Бабруйскай акр.).

## Рыхтуемся.

Набліжаецца ўжо лета. Атрад пачаў думаць, як правесьці летні час. Абгаварыўшы гэтае пытаньне, мы парашылі выйсьці ў лягер. Каб сабраць сродкі на лягер, мы наладзілі лётарэю.

Некаторыя сродкі на лягер адпусьціць і профсаюз. За гэтыя сродкі мы і организуем лягер.

М. Гурвіч.

(Барысаў, атрад Камбінату).

## Новыя організатары гульняў.

Пры Цэнтральным Піонэрскім Клюбе організаваліся курсы, мэтай якіх зьяўляецца—падрыхтоўка добрых організатараў гульняў у піонэрскіх атрадах. На курсах знаходзіцца 60 піонэраў з розных атрадаў. Праводзіць курсы добры інструктар.

Па атрадах праводзяцца ўжо новыя гульні, і яны ажыўляюць работу атрадаў.

(Барысаў). Гурэвіч і Хайцын.

## Першы „касьцёр".

У нашым атрадзе было зусім мала цікавых момантаў у працы. Але ў дзень 1 Мая у нашым атрадзе быў зроблен першы крок да ажыўленьня працы. Другога Мая мы наладзілі касьцёр. Для гэтага мы ўзялі ў коопэратыве дзьве бочкі з дзёгцем, наклалі туды трэсак і аблілі газаю. Вечарам мы запалілі бочкі. У гэты час павадыр атраду зрабіў гутарку пра 1-ае Мая. Пасьля гутаркі гулялі ў гульню „Бой". Разьдзялілі атрад на дзьве партыі: белых і чырвоных. Пасьля таго, як чырвоныя перамаглі белых, у палон захапілі „Чэмбэрлена", і яго „расстралялі". Чэмбэрлена мы зрабілі з саломы, а галаву з гаршка, які абклеілі паперай, дзе і намалявалі твар.

З. Сечко.

(Вёска Танежычы, Бабр. акр.).



*На выстаўцы ручное працы ў Менскай чыгуначнай школе.*

## Дайце шэфа!

Наш атрад лічыцца нібы сіратою. Ён заўсёды ў вялікім клапоце, дзе ўзяць гальштукаў, дзе-б узяць грошай на сьцяг ці піонэрскі барабан. Шэфа няма і няма каму клапаціцца аб нашым бедным атрадзе. Мы спадзяемся, што знойдзем сабе шэфа, які-б даў магчымасьць стаць нам на ногі.

Гапановіч.

(Бабруйск. акр., в. Танежычы).




(Казка).

Жыў быў у лесе воўк.

Быў той воўк — злы. З доўгімі клыкамі, страшны. На начлезе жарабё падарве, у полі зловіць авечку: тым і жыў. А то яшчэ паедзе чалавек у лес, а ён стаіць за дрэвам выскаліўшы зубы. Толькі чалавек аднаго ваўка не баіцца, калі ўжо чарадой наскочаць—тады беражыся.

От падышла старасьць к ваўку. Стаў худым, хвост ушчаміў паміж ног. Зубы ўсе павываліваліся. А бяз зубоў, што ён за зьвер тады? Ваўка-ж толькі зубы і кормяць. Ляжыць той воўк ня еўшы ў бярлозе, у самым гушчары лесу. Ляжыць—дзень, два, тры. На чацьверты дзень стаў думаць. Усё думаў, бурчаў, ведама злы быў, і надумаўся:

— Каго ні пападу, таго й зьем.

Вышаў з лесу на поле. Пагода цёплая. Лета. А есьці ваўку дужа хочацца. Ідзе сабе павольна дарогаю...

Ходзіць баран па лузе, шчыпле зялёную траўку. Рогі вялізныя, белы, адкормлены. „От будзе пажыва", думае воўк.

І кажа барану:

Баран, баран, я цябе зьем!

Паглядзеў баран на ваўка. Бачыць стары, сагнуты, бяззубы. Не спалохаўся. Нагастрыў рогі аб баразну, накасавурыўся. „Я табе, думае, пакажу, як мяне есьці".

Успомніў пра тое, якім ворагам быў, прабляяў да ваўка:

— Эх, воўк. Старым ты стаў. Зубоў у цябе няма. Як-жа ты мяне есьці будзеш? Разяў ты лепш рот шырока, дык я ў цябе сам ўскочу.

Добра.

Воўк разявіў рот шырока, шырока. Разагнаўся баран ды як стукне яму рагамі ў лоб. Паваліўся воўк.

А баран пайшоў сабе дахаты.

Ляжыць гэтак воўк перакуліўшыся ў яму ды разважвае:

„На што мне яго глытаць было? Еў-бы я яго ціханька, патрошку. Як-бы еў-ды ня еў, можа-б і зьеў. Ну, цяпер каго ні пападу, таго й зьем".

Устаў і пайшоў сабе. Ідзе ды ідзе па дарозе, прыглядаецца да ўсяго, нюхае".

Тут як тут ходзіць па жыце кабыла. Есьць жыта, хвастом махае.

Воўк падышоў, аглядзеў кабылу.— На цэлы месяц будзе чаго есьці.

Зашамкаў воўк бяззубым ротам:

— Кабыла! як-ні-як, а я цябе зьем...

Расставіла патворлівая кабыла заднія ногі, памахала доўгім хвастом нахмылілася.

Не, кажа, ня можаш ты, воўк, есьці мяне. Пашпарт у мяне ёсьць. Права ня маеш. Цяпер другія правы, не ранейшыя.

Воўк не паверыў, бліжэй прыступіўся.

— А дзе той пашпарт?

— Зірні, кажа, калі цікавісься— там на хвасьце прывязаны.

Воўк здуру разявіў рот, прыжмурыў вочы, а кабыла—як сьвісьне, як дрыпане нагамі ў лоб. Кумельгам пакаціўся дасьціпны воўк на дзесяць сажняў.

Заіржала кабыла, засьмяялася. Пашла сваёй дарогаю.

Дрэнна.

Ляжыць воўк, шчупае рэбры, лічыць. Пералічыў—палова зломаных.

„І навошта, думае, мне патрэбен быў той пашпарт? Нашоўся я вучоны. Як-бы я еў-ды ня еў, можа-б і



зьеў... Ну, цяпер каго ні пападу, таго й зьем“.

Якраз у гэты час ішоў па дарозе кравец з доўгім аршынам (так палка кравецкая завецца). Адшыўся ў некага ды й дыбаў памалу.

Воўк падняўся на нагі, паглядзеў.

„Вось каго, думае, зьем і пашпарта ня буду пытаць. На ліха ён мне?“

Кажа краўцу:

— Кравец, я цябе зьем!

Кравец быў хітры, падумаў — эгэ!

Навошта ты мяне есьці будзеш? Ты стар, бяззуб. Давай я табе лепей кажух пашыю—хоць ня еўшы ды цёпла ўзімку будзе...

Воўк, ведама, дурны. Згадзіўся. „От, думае, у кажусе хадзіць буду пан-панам, павага будзе“.

Узяў гэта кравец аршын свой жалезны, быццам мерыць стаў. Схваціў за хвост, ды ну лупцаваць ваўка! Біў-біў—забіў! За хвост яго, на плячо ды й панёс дахаты.

Аблупіў скуру, кажух пашыў.

Так і ня стала ваўка, бо калі ты воўк, жыві з ваўкамі. Што зубоў няма — ніхто ня вінаваты — было не ламаць іх аб авечыя косьці. І к чалавеку таксама ня лезь.

Чалавек хіцер!



(З народнага). **В. Каваль.**

# ЭЛЬКА-АКЦЯБРОНАК.

Казка **Астапенкі.**

I.

Прышла вясна шчасьлівая.
Красуе на зямлі.
Палі—лясы санлівыя
Сьпяванкамі званлівымі
Вясёла загулі.
Шумяць кляны галінамі
Ў бульвары гарадзкім.
Над гнёздамі птушынымі
Галосна, нясупынна
Крычаць гракі.
У небе жаўра носіцца,
Пяе у вышыні:
„Во хутка закалосіцца
Абшар зямлі палоскамі,
Бязьмежжам ніў!..“
Усё жыва пановаму,
Вясёлы кожны твар.
За брамамі кляновымі
Галоснымі размовамі
Шуміць бульвар.
— Янук! сьпяшайся з плянкамі!..
— Нясі цьвікі, Якім!..
Як, весела, з гулянкамі
На сквэры гарадзкім!
Вунь Элька-акцяброначак
Брацішкам маладым
Крычыць паміж сасоначак
З запалам веснавым:
„Таварышы, мы ведаем,
Што птушкі нам—свае!
Яны зьядаюць кучкамі
І мошак і чарвей.
Гракі з вераб‘янятамі
І шустрыя шпакі—
Яны для нас карысныя,—
Такія дружбакі!
Калі-б яны пагінулі,
Дык чэрві ў свой чарод
Усе садкі-б паелі ў нас,
І кожны агарод.
А вы іх не шануеце,
А часам іншы хват
Птушыну з птушынятамі
Пабіць, раскідаць рад.
Дык вось таму й сабраліся
Сюды мы з нашых школ,
Каб тутака шпакоўніцы
Паставіць для шпакоў.
Хай кожны будзе меці
Хаціначкі свае,
Каб нішчылі у садзе
І мошак, і чарвей.
На гэтым я заканчваю: —
Давайце будаваць!—
Няхай жыве птушачая
Вагромністая рацьǃ..“
Так Элька наш прамову вёў
На сквэры гарадзкім.
Яго на ліпах слухалі
Паважныя гракі.
І дружна часам каркалі
На ўвесь абшар-бульвар.
Прамоўцу шумна пляскала
Далонямі дзятва.
А к вечару закончылі...
І у гальлі кляноў
Бялізнай застракаціўся
Пасёлак для шпакоў.



II.

Горад снамі апавіўся...
Шумам горад ня дрыжыць.
Залацяцца зоркі ў высях.
Горад сьпіць і Элька сьпіць.
У пакоі ціха-цёмна,
І навокал тая-ж ціш.
Асьцярожна і сукромна
Мышка часам зашасьціць.
Вось зірнуў таемна месяц
У вакно з-за гонкіх ліп,
Кінуў сьвет ды паднябесьсем
Ў далячынь сабе паплыў.
Элька сьпіць пасьля работы.
У вакно глядзіцца клён.
Элька дрэмле без клапотаў
І такі ён бачыць сон:
... Нейк сьветла стала мігам.
Элька ўстаў, пакінуў спаць.
Па стале па розных кнігах
Ходзіць ціха чорны шпак.
Сваёй дзюбкай грострай водзіць,
Эльку ўбачыў і мігнуў,
Усьміхнуўся дый заводзіць
Гэтак гутарку сваю.

Шпак. Ну, здароў, каханы браце!
Як жывеш пасьля прамоў?
Я сядзеў на сквэры ў хаце
Ды надумаўся й прышоў.
— Мы ого! жывем цяпера...
Ў час пасёлак падасьпеў!
А ў птушыным нашым сквэры
Усе помняць аб табе.
Ты, браток, прамоўца хвацкі:
Так гаворыш, што—ого!



І гучаць-жа так пабрацку
Гукі голасу твайго!

Элька. Пачакай, мне неяк дзіўна!—
Раскажы, з якой пары
І якім ты гэта чынам
Стаў палюдзку гаварыць?..
Я жыву ўжо годзік сёмы,
І за гэтых сем гадоў
Нейк ня чуў (а мо' ня помню?).
З людзкім голасам шпакоў.

Шпак. Эге-ге! ня чуў ты дружа!
Ды такіх, як я ня шмат.
Я, браток, ад розных птушак
Поўнамоцны дэлегат.
Ну й затым, што трэба з вамі
Справы весьці мне свае,
Праз навуку я з гадамі
Вашу мову адалеў.
Да тваёй-жа, Эля, хаты
Я таму прышоў ад ліп,
Што шпакі й вераб'яняты
Даручэньне мне далі.
Вы павесілі для нас
Шмат будынкаў усялякіх.
Дык за гэта—
Шчыра дзякуй
Вам ад нас усім, усім!..
Акцябратам
Ад нас, птушак,
„Дзякуй“ наш перадасі.
А пакуль—
Да стрэчы дружа!
Як захочаш стрэнуць, можа,
Дык прыходзь на наш бульвар.
А пакуль, браток, бывай!
Мне далей
Тут быць ня можна.

. . . . . . . . . . . . . .

Элька ўстаў, зірнуў навокал:
Згінуў сон і птушка з ім...
Веснавое сонца вокны
Лашчыць праменем сваім.
Ад вакна на сьценцы ў хаце
Залатыя ўзоры хваль...

— Ну, ўставай-жа
Будзіць маці...
— Элька,
Позна ўжо—уставай!

III.

Эх, сонца, сонца жарыць.
Прыпарыла ізноў.
Па пыльным тротуары
Мчыць Элька на зьвяно.
Картуз на бок зваліўся...
Сьпяшаецца, бягом...
А сонца з сіняй высі
Ўсьміхаецца з яго.
Ну, вось і клюб знаёмы.
Ня позна шчэ'...
Ура!..
Ізноў—




Сьпяванкі й гоман
Шумлівых акцябрат.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# НАША ВІКТАРЫНА.

## Разьдзел VII.

1. Што такое вецер?
2. Чаму піонэры не здароўкаюцца за руку пры спатканьні?
3. Што такое макуха?
4. Хто першы пабудаваў параход?
5. Дзе ў СССР больш за ўсё здабываецца нафты?
6. Чаму чырвоная гвязда мае пяць рагоў?
7. Колькі на земнай кулі акіянаў?
8. Чаму лёд лягчэй вады?
9. Якая птушка ня можа лятаць?
10. Колькі людзей жыве на земнай кулі?
11. Чым дыша лягушка?
12. Калі бывае сьвята дню друку?
13. Ці можа згібацца сьвет (праменьні)?
14. Які павук у няволі сам сябе забівае?
15. Колькі краёў сьвету на земнай кулі?
16. Хто першы адчыніў Амэрыку і калі?
17. Якое першае апавяданьне надрукаваў М. Горкі?
18. У якім годзе адбылася вялікая забастоўка Англійскіх вуглякопаў.
19. Колькі ёсьць плянэт разам з зямлёй?
20. У якім годзе быў учынен замах на жыцьцё Леніна і кім?

## Адказы на разьдзел VI.

1. Каб пазбавіцца ад паразітаў-пераедаў (падобныя да вошай).
2. Ловіць мышэй.
3. Ад слова „рубіць" (даўней грошы складаліся з мэталёвых абрубкаў—палачак, якія можна было пры патрэбе адсякаць і плаціць імі).
4. Кораньплод для корму жывёл.
5. Добраахвотны ўзнос у карысьць замежных дзяцей.
6. У 1924 годзе.
7. Ніагарскі (Амэрыка).
8. Лісты для замежных піонэраў трэба накіроўваць ў Цэнтральны Піонэрскі Габінэт (Менск, Камсамольская № 25). які іх перашле па адрасу, куды пажадаюць тыя, што высылаюць.
9. Вада павальней астывае. чым паветра і таму вада ўначы здаецца цяплейшай за надвор'е, а ўдзень—наадварот.
10. Сьвет.
11. Польшча.
12. Бо ў ім маюцца мікробы, якія й вылучаюць з сябе сьвет.
13. Карл Маркс.
14. У 1921 г.
15. Сьцяпанаў.
16. Р.С.Ф.С.Р., Украіна, Польшча і Латвія.
17. Сьвятло хутчэй даходзіць чым гук.
18. Могуць (трэба прышчапіць ветку яблыні да асіны).
19. 12.
20. Палажыць яго ў ванну, калі тая паліваецца вадой.

# Як зрабіць фото-апарат.

Перш за ўсё зробім камэру. Камэрай служыць скрыня, зробленая з 4 м/м. дзікту *), асновай якой зьяўляецца дошка, паказаная на рыс. № 1. (Усе разьмеры ўзяты ў мілімэтрах). Калі аснова будзе гатова, трэба выпілаваць дзьве планкі (дошчачкі) і прыклеіць іх да асновы (планкі А і $А_1$). Трэба сачыць, каб краі планкі былі дакладна роўналежны краём асновы і знаходзіліся адна на 20 м/м. ад краю асновы, а другая на 16 м/м. Таўшчыня планак гэткая-ж, як і таўшчыня асновы, г. з. 4 м/м.




Рыс. № 1.

Цяпер выпілі з дзікту правы і левы бок камэры. Даўжыня бочнай сьценкі 137 м/м, а вышыня 136 м/м. Сьценка з боку об'ектыву павінна быць з выразам (В—рыс. 2). Бочныя сьценкі таксама маюць планкі А і $А_1$). Для таго, каб усе планкі знаходзіліся на аднэй простай лініі, трэба ўсе дошкі пакласьці на стол так, каб краі з боку об'ектыву ўяўлялі простую лінію. Калі ўсё праверана




Рыс. № 2.

і зачышчана, можна скрыню склеіць, г. зн. да асновы з дапамогаю трубаў і клею прымацаваць бочныя сьценкі, а потым да бочных сьценак такім-жа чынам прымацаваць верхнюю накрыўку. Але, памятай, што пакрыўку трэба замацоўваць так, каб




Рыс. № 3.

*) Дзікт—тонкае дрэва, з якога робяцца скрынгі для папірос, гільз ды інш.

з боку об'ектыву краі былі і ў аднэй роўніцы (плоскасьці), а з боку касэтыаснова выходзіла на 4 м/м наперад. Калі пасьля склейкі ў цябе будуць шчыліны, дык іх трэба заклеіць чорнай паперай.

Цяпер нам засталося зрабіць дзьве сьценкі камэры—пярэднюю і заднюю. Спачатку зробім пярэднюю, якая будзе служыць для замацаваньня ў ёй лінзы.

У сярэдзіне дошчачкі прасьвярліваюць дзірку, праменем (радыусам) 15 м/м. Планкі А і $А_1$ робяцца толькі ў тым выпадку, калі дрэва крыху сырое. Калі і гэта будзе гатова, бяруць дошку і да яе прыклейваюць дзьве дошчачкі даўжынёю 118 м/м. і шырынёю 45 м/м. Паміж дошчачкамі прасьвярліваюць дзірку радыусам 20 м/м. Яна будзе служыць. для таго, каб у яе ўставіць об'ектыўную трубку. Унутраныя бакі планак павінны быць абструганы пад кутом (гл. рыс. № 4). Потым бяруць дошчачку даўжынёю 155 м/м. і шырынёю 55 м/м., канцы яе састругваюць пад гэткім-жа кутом, як саструганы канты на рыс. № 4. Калі планка будзе туга ўваходзіць у паз Б, у ёй трэба лобзікам выпілаваць проста-кутны чатырохкутнік, заклеіўшы




Рыс. № 4.

яго затым чорнай паперай. Дзьве дзіркі Д і Н, якія служаць дыяфрагмай, выразаюцца дакладна па рыс. № 5.

Пасьля гэтага робіцца об'ектыўная трубка. Яна робіцца з кардону даўжынёю 30 м/м і ўнутраным дыямэтрам 34 м/м, г. з. менш вялічыні адтуліны, выразанай у дошцы для об'ектыўнай трубкі.




Рыс. № 5.

Для таго, каб зрабіць трубку, вазьмі які-небудзь круглы чурбан, радыусам 17 м/м і абкруці яго палоскай чорнай паперы шырынёю 30 м/м. На гэту палоску пачынай наклейваць ужо даўгія палосы паперы і рабі гэта да таго часу, пакуль не атрымаеш трубку патрэбнай шчыльнасьці. Трэба зрабіць таўшчыню сьценкі гэткай, каб знадворны бок яе ўвайшоў у адтуліну, якая роўна 40 м/м.

Об'ектыўная трубка павінна яшчэ мець накрыўку, якая робіцца гэтак. Бяруць ужо гатовую об'ектыўную трубку і на яе канец спачатку бяз клею наматваюць палоску паперы. шырынёю ў 2 см. Зрабіў-

шы адзін зварот. трэба, пасьля „гэтага паперу намазаць клеем і наматваць яе да таго часу, пакуль не атрымаецца колца патрэбнай шчыльнасьці. Да гэтае трубкі трэба прыклеіць выразаны з кардону круг і для таго, каб сьвятло не трапляла ў трубку, трэба краі круга разам з колцам абклеіць чорнай паперай. Калі ты гэта зробіш, вазьмі об'ектыўную трубку і ўклей яе ў адтуліну, зробленую для яе. У часе ўклейваньня сачы за тым, каб об'ектыўная трубка не чаплялася за дошчачку з дыяфрагмай.



Рыс. № 6

Цяпер засталося набыць лінзу (павялічальнае шкло) і замацаваць яе ў адтуліне, зробленай для яе. Лінзу ты можаш набыць у оптычным магазыне. Яна павінна мець у папярэчніку 3 см. і фокуснай адлегласьцю 11,5 см. Гэту лінзу можна замацаваць з дапамогаю клею наступным чынам. З абодвух бакоў адтуліны прыклейваюць кавалкі кардону з круглым выразам, зробленым такім чынам, каб дыямэтр адтуліны быў крыху меншы за дыямэтр лінзы. Кавалкі кардону прыклейваюца да дошкі сьпераду і ззаду так, што лінза зьмяшчаецца ў адтуліне паміж імі. Трэба лінзу замацаваць мацней і проста. Калі табе ўсё гэта ўдалося зрабіць, ты можаш пярэднюю сьценку прымацаваць да камэры, пасьля чаго застанецца зрабіць заднюю сьценку камэры, касэты і „відаіскацель".



Рыс. № 7.

Задняя частка камэры робіцца на пяцельках з гаплікамі (кручкамі). „Відаіскацель" уяўляе сабой камэру ў малым выглядзе. Для яго таксама трэба набыць лінзу дыямэтрам 15 м/м. і фокуснай адлегласьцю 3,5 см. Пярэдняя сьценка робіцца з адтулінай, у якую ўстаўляецца лінза. Гэта сьценка ўяўляе сабой простакутнік, у якога вышыня 35 м/м, а шырыня 32 м/м. Бочныя сьценкі таксама простакутнікі даўжынёю 40 м/м і вышынёю 35 м/м.

Накрыўка „відаіскацеля" робіцца з гэткім выразам, каб праз яго можна было бачыць люстэрка, якое знаходзіцца ў сярэдзіне „відаіскацеля". У гэты выраз трэба ўклеіць празрыстую паперу, якую трэба спачатку намачыць, каб высахнуўшы яна нацягнулася. У сярэдзіну „відаіскацеля" устаўляецца люстэрка пад кутом 45 градусаў. Для таго, каб люстэрка моцна трымалася, яго прыклейваюць. Агульны выгляд „відаіскацеля" паказаны на рыс. № 6. Гатовы „відаіскацель" замацоўваецца на аднэй простай з пярэдняй сьценкай у сярэдзіне яе (гл. агульны выгляд фото-апарата).



Рыс. № 8.

Цяпер нам засталося зрабіць касэты, якія служаць для таго, каб у іх закладваць фото-пластынкі. Задняя сьценка касэты (рыс. № 7) робіцца з 4 м/м фанэры, потым робіцца 8 планак (V). 4 планкі прыклейваюцца да задняй сьценкі, як паказана на рыс. № 7 кропкамі. Яны будуць служыць для таго, каб у сярэдзіну (унутр) іх складваць пластынкі. Каб пластынка трымалася моцна і ня падала, у планках замацоўваюць скобачку М і два цьвікі без галовак.



Рыс. № 9.

Накрыўка касэты (рыс. № 8) робіцца з фанэры таўшчынёю ў 1 м/м. З тэй-жа фанэры робяцца тры аднолькавых планкі П і замацоўваюцца на задняй часьці касэты так, як паказана кропкамі на рысунку № 9. Паміж бакавымі планкамі накрыўка касэты павінна перасоўвацца ўверх і ўніз. Лепш за ўсё прыклейваць бакавыя планкі, адначасова ўлажыўшы


Рыс. № 10.

паміж імі накрыўку. Затым замацоўваюць астатнія 4 планкі V па разьмерах (рыс. 7) і даюць усёй касэце высахнуць. Каб накрыўка касэты зусім ня высоўвалася, да яе прыклейваецца кардонка С (рыс. № 8).

Разрэз касэты паказан на рыс. № 10.

Вось увесь апарат і гатоў. **Гіс.**

ЦАНА 12 кап.




## Загадкі.

1. Хто двойчы радзіўся,
Ў школе ня вучыўся,
А гадзіны знае?

2. У нашай бабусі
Сядзіць дзед у кажусе,
Бакі абагравае,
Без вады твар умывае.
Ну, хто адгадае?

3. Сапе, храпе, часам чхае,
На марозе замярзае,
Бо адзеньня ён ня мае.

4. Каціласа талерачка па крутой гары,
Забаўляла яна дзетак на усім двары.
А нам тае талерачкі чаму-ж ня любіць,
Прыгожая, залатая і як жар гарыць.
Прышла баба-чарнушачка,—увесь чорны стан.
Захавала талерачку у сіні туман.
Сьціхлі сьпевы, гульні жарты, ды ў двары тым:
Залатое талерачкі стала шкода ўсім.

5. Я спрадвечнае, вялізнае,
Я далёкае, ня блізкае,
Да мяне ніхто ня дойдзе.
Ні за год, ні за стогодзьдзі.
Рэкі, мора аглядаю,
Ўсім жыцьцё я пасылаю;
Людзям, мошкам і расьлінам.
Усіх грэю цёплай плыньню.
Я на выгляд круглаліца,
Нібы тая маладзіца.
Шчырым золатам згараю
Хто ні гляне—асьляпляю.

## Жарты.

### Хто лепш ведае?

Настаўнік:—Слухай, Міхась! Калі ў цябе будзе палова яблыка, а твой брат дасьць табе яшчэ два, дык колькі тады будзеш мець разам?

Вучань (матае галавой і маўчыць).

Настаўнік:—Ну, што-ж?

Вучань:—Трасцу, бо мой брат ніколі мне і паўяблыка не дае,—адказвае вучань.

### Варажбіты

— У мяне,—кажа цыган,—тры сыны і ўсе варажбіты: калі скажа адзін, што будзе дождж, другі—што будзе хмарна, а трэці—што будзе пагода—дык усё-ж каторы-небудзь угадае!





1-ая друкарня „БДВ“. Заказ № 2394. У ліку 2.800 экз. Галоўлітбел № 1323